АДНА ЗЯМЛЯ

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 3 чэрвеня | | Нядзеля, 4 чэрвеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | +8 – +12°C | +10°C | +11 – +13°C | +13°C |
| Удзень | +23 – +26°C | +26°C | +25 – +26°C | +23°C |

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

2 – 8 чэрвеня 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 72 рублі
№ 22 (267)

TV плюс

Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by

У НУМАРЫ –

## КАЛЯРОВАЯ ЎКЛАДКА З ТЭЛЕПРАГРАМАЙ

# У Маладзечне з'явіцца помнік Агінскаму

*МАЛАДЗЕЧНА. Каля музычнага вучылішча імя Агінскага плануюць паставіць помнік славутаму земляку-кампазітару. Існуе рашэнне Мінскага аблвыканкома зрабіць гэта менавіта ў 2000 годзе. Агульны кошт праекта — каля сарака тысяч долараў.*

– Большую частку грошай павінны "ахвяраваць" з гарадскога і абласнога бюджэтаў, – лічыць дырэктар музычнага вучылішча **Рыгор Сарока**. – Таксама, спадзяюся, дапамогуць спонсары і Міністэрства культуры. Яго чыноўнікі не могуць проста прыехаць на адкрыццё помніка і сказаць прамову. Яны павінны ўзяць матэрыяльны ўдзел у гэтай справе.

Помнік Агінскаму ўжо гатовы. Сталічны скульптар **Валяр'ян Янушкевіч** работу над ім пачаў яшчэ чатыры гады таму. Ён упэўнены, што ў Маладзечне абавязкова павінен быць помнік славутаму кампазітару:

– А дзе яму яшчэ стаяць? Міхал Клеафас Агінскі пахаваны разам з Расіні і Дантэ. А ў Маладзечне, для якога ён столькі зрабіў, да гэтага часу нават не ўшанавалі яго памяць.

– Упершыню ў горадзе з'явіцца помнік з такога шыкоўнага матэрыялу – паліраванай бронзы, – гаворыць архітэктар **Аляксей Утулкін**. – Макет даваўся некалькі разоў дапрацоўваць, але цяпер помнік Агінскаму ўжо прыняты манументальным саветам. Маладзечанцы яго ўбачаць, калі з'явіцца грошы на канчатковую рэалізацыю праекта.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*



*Макет скульптуры Міхала Клеафаса Агінскага ў майстэрні скульптара Валяр'яна Янушкевіча.*



*Помнік славутаму земляку – кампазітару і палітыку – будзе ўстаноўлены ля музвучылішча (фота злева).*

ФОТА З АРХІВА В. ЯНУШКЕВІЧА.

МАЛАДЗЕЧНА

## «Спадарожнік» мітынгуе

Завод "Спадарожнік" працягвае падаць: наперадзе двухдзённы рабочы тыдзень, далейшае скарачэнне персаналу, адсутнасць перспектывы. Высокакваліфікаваныя работнікі некалі самага вядомага ў горадзе прадпрыемства вымушаныя зарабляць сабе на хлеб "левымі" заказамі ці прапалкай капусты ў калгасе. У аўторак калектыў завода перапыніў работу.

Спачатку людзі мітынгавалі ля прахадной, затым сабраліся ў актавай зале. Рабочыя ды ІТРаўцы хацелі пачуць грунтоўныя адказы на самыя балючыя пытанні: чаму затрымліваецца выплата і без таго мізэрай зарплаты, ці ёсць у кіраўніцтва, акрамя скарачэння працуючых, эканамічна абгрунтаваныя планы вываду прадпрыемства з крызісу?

Амаль двухгадзінны маналог дырэктара Уладзіміра Шпакава людзей не пераканаў, і яны, урэшце, дэманстратыўна пакінулі залу.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Дарэмная паніка

У апошні час жыхары горада бударажылі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Прычынай паслужылі размовы пра павышаны радыяцыйны фон у Валожыне. Спецыялісты паведамілі, што паказанні дазіметраў пры штодзённых замерах на сваёй тэрыторыі былі ў межах 7–13 мікрарэнтген у гадзіну (дапушчальна 20 мікрарэнтген).

Таксама праверана тэрыторыі ўсіх аздараўленчых летнікаў у раёне. Больш за 15 мікрарэнтген не зафіксавана.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## «На цеплаходзе» можна і патанчыць

Пасля рамонту адкрылася кафэ-бар "На цеплаходзе", якое стаіць ля возера Нарач.

Кіраўнік таварыства, на якім знаходзіцца "карабель", **Юрый Будзько** абяцаў, што зробіць адпачынак тут больш даступным, чым гэта было ў мінулыя сезоны. Шмат у меню рыбных страў, натуральна, ёсць і вэнджаны вугор. Хутка збіраюцца "запусціць" і дыскатэку.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Дзень без цыгарэт

У апошні дзень календарнай вясны з кіёскаў і магазінаў зніклі цыгарэты: маладзечанцы далучыліся да Сусветнага дня адмаўлення ад курэння.

Мясцовы гарвыканком напярэд падрыхтаваў распараджэнне аб забароне ў гэты дзень продажу тытуню ў гандлёвых пунктах горада. Не было відаць і бабулек-гандляпак.

Гэтае распараджэнне прывяло ў роспач "цыгарэтных магнатаў" горада. Яны, па нашых падліках, не далічыліся мільёна рублёў.

У іншых гарадах і мястэчках рэгіёна гандаль цыгарэтамі не перапыняўся.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## Па Мястры хадзілі ўсюдыходы

Нядаўна жыхары Мядзела дзівіліся на незвычайныя машыны, выстаўленыя ў цэнтры горада, – усюдыходы Мінскага падшыпнікавага завода.

Былі яны ў экспедыцыі ў Антарктыдзе, а цяпер з іх дапамогай робяць своеасаблівы рэкламны тур па Беларусі. Паралельна вядзецца пошук турысцкіх маршрутаў, дзе машыны маглі б выкарыстоўвацца. Усюдыходы могуць рухацца ва ўсялякіх цяжкадаступных месцах, нават па вадзе. Крыху прайшліся яны і па Мястры.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## ФК «Маладзечна» на першым месцы

У чарговым туры чэмпіянату краіны ў першай лізе маладзечанскія футбалісты атрымалі сваю самую буйную перамогу ад пачатку суверэнных чэмпіянатаў. З лікам 8:0 на выездзе перамажана "Палессе" з Мазырскага раёна. Двойчы ў гэтым матчы вызначыўся **Дзмітрый Мігас**. Маладзечанцы выйгралі ўжо пяць сустрэч запар.

Каманды, што лідзіравалі ў турніры (ФК "Лунінец" і мікашэвіцкі "Граніт"), звялі свае сустрэчы ўнічыю. Гэта дало магчымасць маладзечанцам выйсці на першы радок у табліцы, заняць тую самую адзіную пазіцыю, якая дазволіць у наступным сезоне вярнуцца ў вышэйшую лігу. Наперадзе яшчэ дзвацаць тры туры.

Падрабязнасці, як заўсёды, на спартыўнай старонцы.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ПРАФЕСІЯ

# Жарты і праўда пра пажарных

## Пажарныя, спіце!

З маленства нам вядомы тэлефонны нумар "01". Тым не менш, мала хто можа меркаваць пра цяжкасці ў рабоце пажарных. Успомніце жарт:

– Пажарны спіць 25 гадзін у суткі.

– Чаму?

– Таму, што ён кладзецца спаць на гадзіну раней.

Хаця самі пажарныя на гэта адказваюць так:

– Калі мы спім, людзі ўсміхаюцца, а калі працуем – плачуць. Так што лепей бы пажарныя спалі!

Але іхняя работа – далёка не жартаўлівая справа.



Праз агонь, ваду і трубы.



Пажарнаму трэба быць і альпіністам.



Майстар-выратавальнік Іван Рагель, майстар-выратавальнік Іван Поташ, майстар сувязі Сяргей Пакладок, старшы інструктар-выратавальнік Ігар Зянько (злева направа).



На паласе перашкод.

ФОТА ЮЛІІ ВАНСЛАЎ.

## 45 секунд

Многія лічаць, што пажарныя сядзяць без работы, калі няма выклікаў. На самой справе існуе спецыяльны рэжым дня. Пажарны, як прыйдзе на работу, перапранаецца і снедае. Далей яго чакаюць заняткі фізічнай культурай (раз на месяц праходзіць здача нарматываў), абед, догляд за тэхнікай, гаспадарчыя работы, спартыўныя мерапрыемствы, вячэра, культурна–масавыя мерапрыемствы і, нарэшце, сон. Так звычайна праходзіць працоўная змена пажарнага, якая складае 24 гадзіны (суткі працуе – двое дома).

Калі ж паступае выклік, пажарныя забываюцца на рэжым дня і кідаюць усе свае справы, бо праз 45 секунд яны павінны выехаць на пажар.* Маладзечанскія пажарныя сцвярджаюць, што па ўсім свеце іхнія калегі працуюць па іншым графіку: суткі дзяжурства – трое адпачываюць.

– Нам за перапрацоўку ніхто не плаціць, – скардзяцца беларускія выратавальнікі.

Але падчас пажару яны забываюцца на скаргі і робяць сваю справу. Існуе шмат дапаможнікаў па тушэнні пажараў, але ніякая кніга псіхалагічна не настроіць на барацьбу з агнём у экстрэмальным становішчы. З гэтай нагоды ў падраздзяленні маладзечанскага атрада ваенізаванай пажарнай службы (АВПС-14), што ў раёне завода парашковай металургіі, тры гады таму пачалі ўзводзіць спецыяльную агнявую паласу псіхалагічнай падрыхтоўкі. Яна складаецца з пятнаццаці аб'ектаў, і на кожным прысутнічае агнявы эфект. Падчас праходжання паласы пажарны сустракаецца з цяжкасцямі, якія звычайна чакаюць яго на сапраўдным пажары. Хаця некаторыя выратавальнікі лічаць гэтае выпрабаванне дарэмным:

– Карысці было б больш, каб мы лішні раз выехалі на выклік. Менавіта на сапраўдным пажары ідзе псіхалагічная загартоўка, – гавораць яны.

Акрамя пажарных, на кожны выклік едуць яшчэ і людзі са штаба пажаратушэння, якія кіруюць працэсам. Але штаб займаецца і іншымі справамі. Прыкладам, сюды прыходзяць прадстаўнікі арганізацый, калі плануюць праводзіць зямельныя работы. На іх час дарогі перакрываюцца, а пажарным трэба ведаць, як пад'ехаць да кожнага месца: пажар можа пачацца неўзабаве.

Бываюць і несапраўдныя выклікі. У апошні час, дзякуючы тэхнічным навінкам і "прафілактычнай" рабоце, іх колькасць зменшылася. Прыкладам, паступае званок, вызначаецца нумар тэлефона, дыспетчар цэнтра аператыўнага кіравання тэлефануе па ім і пытаецца:

– Вы выклікалі пажарную службу?

Пасля гэтага некаторыя "кліенты", звычайна, знікаюць.

## Сустрэць Новы год амаль у абдымку з трупам

Якія якасці павінны быць у пажарных? Яны павінны ўмець супакойваць людзей і заўсёды заставацца спакойнымі, павінны быць гатовымі рызыкаваць сваім здароўем і жыццём. Наогул, пажарныя заўсёды знаходзяцца ў "рэжыме чакання", што цяжка псіхалагічна. Старшы лейтэнант унутранай службы маладзечанскага АВПС-14 **Аляксандр Русак** гаворыць, што пажараў больш зімой, калі пачынаецца ацяпляльны сезон, а тэлефануюць часцей раніцой і пасля абеду.

Але выклік можа паступіць тады, калі менш за ўсё яго чакаеш. Расказвае старшы памочнік начальніка штаба пажаратушэння маладзечанскага АВПС-14 **Генадзь Навумец**:

– 2000 год я сустрэў ледзь не ў абдымку з трупам. 31 снежня каля 22 гадзін вечара паступіў выклік з Вілейскага раёна: ім было патрэбнае падмацаванне – гарэў кармацэх калгаснай фермы, у якім знаходзіўся вартаўнік. Скаціна не пацярпела, а чалавека гэтага выратаваць не атрымалася. За хвілін дзесяць да наступлення Новага года мы паведамілі пра гэты выпадак у Мінск (нас прыспешвалі, каб паспелі ўсё зрабіць у "старым" годзе). Толькі калі на гадзінніку было 23–58, ад'ехаліся ад фермы. А з новым годам нас павіншавалі па радыёстанцыі. Прыехалі ў Маладзечна, папілі гарбаты. Спіртное нельга было – якія ж з нас атрымаліся б выратавальнікі, калі саміх давялося б выратоўваць! А ў тры раніцы паступіў яшчэ адзін выклік – у шостым мікрараёне гарэў гараж. У машыне знаходзіўся мужчына. Ён здолеў своечасова выскачыць адтуль, але застаўся без транспартнага сродка: нягледзячы на наша змаганне з агнём, аўтамабіль немагчыма адрамантаваць. Такая была навагодняя ноч.

Здараюцца і смешныя выпадкі. Аднойчы ў цэнтр аператыўнага кіравання тройчы тэлефанавала жанчына і прасіла дапамагчы выгнаць з яе кватэры ката. Мы параілі ёй звярнуцца ў службу па адлоўліванні бадзяжных жывёл, але жанчына настойвала, і мы ўсё ж паехалі да яе. У баявым адзенні, у касках. Дзверы нам адчыніла падрапаная гаспадыня, у кватэры ўсё было перавернута. Кот на самой справе паводзіў сябе непрадказальна. Калі б мы яго выпусцілі на лесвічную пляцоўку, ён мог бы напасці на каго–небудзь. Таму мы выкінулі ката праз акно (кватэра знаходзілася на трэцім паверсе). Але злавіць гэтую жывёлу было нялёгка!

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Дарэчы, тэлефонныя сігналы паступаюць спачатку ў цэнтр аператыўнага кіравання. Менавіта яго дыспетчар выклікае на месца здарэння неабходную тэхніку: медыцынскі аўтамабіль, аварыйна–выратавальны (беларускае "911"), аўтацыстэрны (запасы вады ў іх – ад 2 да 6 тон), дымасосы, аўталесвіцы (яны могуць дасягаць дзевятага паверха), пажарныя аўтамабілі парашковага тушэння (з запасамі парашку да 5,8 тоны). Апошнія звычайна выкарыстоўваюцца падчас барацьбы з агнём на прадпрыемствах хімічнай і нафтавай прамысловасці, у музеях, бібліятэках і іншых месцах, дзе захоўваюцца каштоўныя рэчы. Таксама пажары можна тушыць вуглекіслатой (спецыяльны газ, які перашкаджае доступу кіслароду).

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 25 мая | 1 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 550,00 руб. | 575,00 руб. |
| Марка Герм. | 254,47 руб. | 273,62 руб. |
| Літ | 137,53 руб. | 143,78 руб. |
| Рас. руб. | 19,45 руб. | 20,37 руб. |
| Злоты | 121,55 руб. | 130,98 руб. |
| ЕЎРА | 497,69 руб. | 535,15 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | 970 – 990 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 24.05 | 31.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4230 | 4230 |
| Сасіскі | 1 кг | 1228 | 1270 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | – |
| Рыс | 1 кг | 340 | 340 |
| Грэчка | 1 кг | 560 | 560 |
| Цукар | 1 кг | 275 | 280 |
| Алей | 1 л | 660 | 660 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 385 | 385 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | 260 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 215 | 210 |
| Лімоны | 1 кг | 850 | 960 |
| Апельсіны | 1 кг | 580 | 560 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | 150 |
| Яблыкі | 1 кг | 420 | 450 |
| Морква | 1 кг | 220 | 350 |
| Капуста | 1 кг | 220 | 220 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 700 |
| Масла | 1 кг | 1400 | 1500 |
| Тварог | 1 кг | 450 | 450 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 200 |
| Бульба | вядро | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 500 |
| Радыска | 1 пучок | 100 | 150 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 100 | 100 |
| Кроп | 1 пучок | 50 | 40 |
| Салата | 1 пучок | 50 | 50 |

ДАВЕДКА «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»

## Расклад руху цягнікоў далёкага накіравання



### па ст. Маладзечна (с 28.05.2000 года)

| № цягніка | Напрамак | Адпр. з пач.ст. | Па ст. Маладзечна прыб. | стаянка | адпр. | Прыб. на кан.ст. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Масква–Каўнас | 17.18 | 3.59 | 5 | 4.04 | 9.00 | штодз. |
| 6 | Каўнас–Масква | 14.20 | 20.54 | 4 | 20.58 | 9.34 | штодз. |
| 29 | Масква–Калінінград | 14.04 | 0.48 | 5 | 0.53 | 10.40 | штодз. |
| 30 | Калінінград–Масква | 10.15 | 20.10 | 4 | 20.14 | 9.27 | штодз. |
| 57 | С.-Пецярбург–Варшава | 11.45 | 1.14 | 14 | 1.28 | 12.37 | штодз. з 27.05 па 25.09 |
| 58 | Варшава–С.-Пецярбург | 0.20 | 15.57 | 18 | 16.15 | 8.35 | штодз. з 28.05 па 26.09 |
| 77 | Масква–Гродна | 16.24 | 3.08 | 4 | 3.12 | 8.35 | штодз. |
| 78 | Гродна–Масква | 16.47 | 22.15 | 5 | 22.20 | 11.02 | штодз. |
| 141 | Мінск–Гродна | 16.28 | 17.34 | 3 | 17.37 | 21.45 | па 5, 6, 7 |
| 142 | Гродна–Мінск | 6.24 | 10.26 | 3 | 10.29 | 11.36 | па 1, 5, 6, 7 |
| 149 | Масква–Калінінград | 19.15 | 6.27 | 5 | 6.32 | 16.47 | штодз. з 1.06 па 7.09 |
| 150 | Калінінград–Масква | 16.09 | 2.13 | 4 | 2.17 | 16.24 | штодз. з 31.05 па 6.09 |
| 200 | Вільня–Мінск | 7.04 | 10.46 | 3 | 10.49 | 12.11 | штодз. |
| 201 | Мінск–Вільня | 17.58 | 19.21 | 6 | 19.27 | 21.26 | штодз. |
| 203 | Мінск–Вільня | 6.40 | 8.02 | 5 | 8.07 | 9.54 | штодз. |
| 204 | Вільня–Мінск | 15.50 | 19.35 | 7 | 19.42 | 21.08 | штодз. |
| 211 | Харкаў–Калінінград | 23.40 | 21.20 | 4 | 21.24 | 7.26 | няцот. |
| 212 | Калінінград–Харкаў | 14.50 | 1.23 | 4 | 1.27 | 22.05 | няцот. |
| 281 | Унеча–Гродна | 13.00 | 0.33 | 4 | 0.37 | 6.20 | няцот. |
| 282 | Гродна–Унеча | 15.38 | 21.33 | 10 | 21.43 | 11.44 | няцот. |
| 285 | Гомель–Калінінград | 16.38 | 23.38 | 7 | 23.45 | 9.38 | цотн. |
| 286 | Калінінград–Гомель | 18.40 | 4.25 | 3 | 4.28 | 11.20 | цотн. |
| 287 | Гомель–Рыга | 18.20 | 0.21 | 29 | 0.50 | 11.40 | цотн. |
| 288 | Рыга–Гомель | 17.35 | 5.31 | 26 | 5.57 | 13.18 | няцот. |
| 419 | Масква–Калінінград | 0.05 | 11.04 | 3 | 11.07 | 21.15 | па указ. |
| 420 | Калінінград–Масква | 2.10 | 12.43 | 3 | 12.46 | 3.39 | па указ. |
| 525 | Чэлябінск–Калінінград | 21.45 | 5.34 | 3 | 5.37 | 15.28 | 13, 21, 30.06, 10, 18, 26.07, 4, 12, 21, 29.06, 15.09 |
| 526 | Калінінград–Чэлябінск | 8.10 | 18.09 | 5 | 18.14 | 6.12 | 7, 15, 24.06, 4, 12, 20, 29.07, 6, 15, 23, 31.08, 9.09 |
| 675 | Мінск–Полацк | 17.08 | 18.28 | 25 | 18.53 | 0.46 | штодз. |
| 676 | Полацк–Мінск | 1.30 | 6.20 | 26 | 6.46 | 8.34 | штодз. |
| 683 | Віцебск–Гродна | 18.00 | 0.33 | 4 | 0.37 | 6.20 | цотн. |
| 684 | Гродна–Віцебск | 15.38 | 21.33 | 10 | 21.43 | 5.00 | цотн. |

*Даведкі па тэл. у Маладзечне 005, 42423.*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## У рэгіёне сёлета 3450 выпускнікоў сярэдніх школ

| | Колькасць выпускнікоў | Прэтэндэнты на "золата" | Удзельная вага (папярэдн.) | Прэтэндэнты на "серабро" | Удзельная вага (папярэдн.) |
|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | 588 | 40 | 6,8% | 45 | 7,7% |
| Маладзечанскі раён | 338 | 35 | 10,4% | 25 | 7,4% |
| Астравецкі раён | 284 | 42 | 14,8% | 28 | 9,9% |
| Ашмянскі раён | 289 | | | | |
| Валожынскі раён | 390 | 41 | 10,5% | 36 | 9,2% |
| Вілейскі раён | 495 | 49 | 9,9% | 50 | 10,1% |
| Мядзельскі раён | 356 | | | | |
| Смаргонскі раён | 710 | 53 | 7,5% | 57 | 8,0% |
| **Усяго па рэгіёне** | **3450** | | | | |

У Ашмянскім і Мядзельскім раёне прэтэндэнтаў на медалі яшчэ не падлічылі. Найбольшая доля "залатых" медалістаў у агульнай колькасці выпускнікоў «запланаваная» у Астравецкім раёне.

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

ЗДАРЭННІ

## Ледзь не згарэлі дзеці

*СМАРГОНЬ. У кабіне трактара, што стаяў у двары, падлеткі знайшлі пластыкавую бутэльку з бензінам. На пустцы за дамамі пачалі абліваць палачкі бензінам і падпальваць.*

Загарэўся бензін у бутэльцы. Пры спробе патушыць агонь (нехта наступіў нагой на бутэльку), бензін трапіў на хлопчыкаў 7 і 8 год. Астатнія змаглі патушыць агонь на адзенні, пасля чаго завялі тых дадому. Бацькі неадкладна адправілі іх у бальніцу.

Хлопчыкі атрымалі апёкі цела II ступені на 12% паверхні цела. У рэанімацыі каля іх дзяжураць урачы і бацькі.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

*Першая ліга*

# Самая буйная перамога

**28.05 Палессе (Мазырскі раён) – Маладзечна 0:8 (0:3)**

Галоўны арбітр А. Алейнікаў (Мінск).

**Галы:** Лукін (5), Азаронак (11), Турчыновіч (36), Мігас (50, 74), Міpановіч (67), Шаўроў (80), Тартоўскі (87).

Лукін (Шаўроў, 46) Турчыновіч
Міхалёў
Тартоўскі Мігас
Азаронак (Мірановіч, 61)
Кабельскі (Бычкоўскі, 46)
Сысой Рагуновіч
Муравейнікаў
Рубацкі

Маладзечанцы як след настроіліся на гульню, і заканамерным вынікам стала самая буйная перамога ў гісторыі каманды падчас яе выступленняў у нацыянальных чэмпіянатах. У якасці прыза прыйшло паведамленне пра нічые і "Лунінца", і "Граніта". Маладзечанцы цяпер на першым месцы – маюць аднолькавую колькасць ачкоў з галоўным канкурэнтам, аднак лепшую розніцу мячоў; яны, па-ранейшым, не прапускаюць, а вось у вароты лунінчанаў уляцеў першы мяч.

Маладыя гаспадары не вытрымалі спякотнага надвор'я і моцнай гульні фаварытаў матча. Прыгожае было апошняе ўзяцце варотаў у выкананні **Тартоўскага**, які выдатна згуляў на апярэджанні пры яшчэ адной класнай нацэленай перадачы з фланга.

Па-майстэрску забіваў **Мігас**. Адзін са сваіх галоў ён цалкам сам і зрабіў. Падхапіў мяч справа ў сярэдзіне поля, і прайшоў па дыяганалі ўлева ледзь не да кута варатарскай на процілеглым флянзе, на шляху абыграўшы прыкладна чатырох сапернікаў. Ударыў левай нагою ў далёкі кут.

Трактар – Тарпеда 1:2, ЗЛіН – Дынама-Юні 1:0, Хімік – Лунінец 1:1, Нёман – Граніт 1:1, Орша – Свіслач-Дах 1:0, Керамік – Зорка-ВА-БДУ 3:0, Вейна-Днепр – Рагачоў 2:2.

**Бамбардзіры:** Шушкевіч (Зорка-ВА-БДУ) – 6; Вадз. Байко, Курыловіч (абодва – Керамік), Новаш – па 5; **Міхалёў, Турчыновіч** і інш. – па 4.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| КАМАНДА | АЧКІ |
|---|---|
| 1. ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 17 |
| 2. Лунінец | 17 |
| 3. Граніт | 16 |
| 4. Керамік | 12 |
| 5. Тарпеда | 12 |
| 6. Нёман | 11 |
| 7. Орша | 11 |
| 8. Свіслач-Дах | 10 |
| 9. Зорка-ВА-БДУ | 10 |
| 10. Рагачоў | 10 |
| 11. Трактар | 9 |
| 12. ЗЛіН | 5 |
| 13. Дынама-Юні | 5 |
| 14. Хімік | 5 |
| 15. Вейна-Днепр | 2 |
| 16. Палессе | 0 |

*Анонс*

**03.06 18.00 Маладзечна – Орша**

**03.06 Лакаматыў – Смаргонь**

+2=2-0 5-1. Летась 3:1 на выездзе 0:0 дома

**03.06 Верас (Нясвіж) – Забудова**

+2=0-2 3-3. Летась 1:2 на выездзе і 1:0 дома

Вынікі жараб'ёўкі 1/32 Кубка Беларусі. 14. 06.

**Верас (Нясвіж) – Маладзечна**

**Забудова – ЗЛіН (Гомель)**

**Смаргонь – Керамік (Бяроза)**

*Усміхнемся*

## Расійскае кіно

Сцэнарый для новага расійскага фільма жахаў: зборная Расіі па футболе гуляе супраць зборнай Расіі па хакеі. Хічкок адпачывае.

*Праблема*

## Як маладзечанцам убачыць сваю каманду

"Маладзечна" цяпер паказвае ўпэўненую гульню і прывабныя вынікі, таму ў шматлікіх балельшчыкаў вяртаецца жаданне (страчанае было за апошнія гады) пастаянна бачыць гульню сваёй каманды. Для гэтага сёлета трэба ездзіць у Чысць.

Увогуле нескладана: на электрычцы да Ушы (найлепшы час для адпраўкі – 16.02, 16.39 альбо 17.15), потым два з паловай кіламетры пешшу ці на аўтобусе. Тым жа шляхам і назад. Аднак многія прыхільнікі жадаюць з'ездзіць без перасадак ад месца да месца, гатовыя заплаціць за гэта і не могуць зразумець, чаму ніякая арганізацыя не хоча зарабіць грошы на такой паслузе.

Дырэктар пасажырскага аўтапарка №4 **Пётр Мамчыц** гаворыць, што дзяржаўная структура не мае права арганізаваць камерцыйны рэйс, а ўстанаўліваць звычайны кошт білетаў нявыгадна. Ёсць варыянт, каб нейкая фірма заказала ў аўтапарка аўтобус і аплаціла паездку, як гэта робяць, напрыклад, дачныя кааператывы для сваіх членаў.

Яшчэ адзін прыклад – нядаўняе раённае свята ў той жа Чысці, калі аўтобусы курсіравалі за кошт датацый райвыканкома.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Нашы інтэрв'ю*

# Сяргей Сафонаў. Размова з трох частак

*Галоўнага трэнера міні–футбольнага "Металурга" Сяргея Сафонава многія запомнілі па яго выступленнях за мінскі "Атлант". Здаровыя амбіцыі ён прынес з сабою і ў Маладзечна, калі перад пачаткам першага ж сезона заявіў пра высокія (і канкрэтныя!) прэтэнзіі толькі што створанай каманды.*



ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

## І. «Металург» цяпер самы моцны ў краіне

**– Прыйшоў час падвесці вынікі сезона.**

– У цэлым, вельмі цікава было працаваць. Амаль з нуля стварылі каманду. Пераважная большасць складу была незнаёмая з міні-футболам. Своеасаблівасць работы заключалася ў тым, што гульцоў трэба было навучыць азам: адметнасцям тэхнікі, тактычных варыянтаў і г. д.

Першапачатковая задача была скарэктаваная, і мы справіліся з новымі абавязацельствамі, занялі трэцяе месца, нават паспрабавалі ўзняцца вышэй. Я папярэджваў хлопцаў, што напачатку будзе вельмі складана, а потым прасцей. Так яно і атрымалася. Практычна ўсе нашыя ачковыя страты прыйшліся на першы круг. У другім жа крузе выступілі проста бліскуча, страцілі толькі два ачкі, шмат забілі, менш за іншых прапусцілі.

У мікратурніры каманд першай тройкі мы маем лепшы паказчык. Гэта значыць, выйшлі на ўзровень, калі можам перамагаць любога саперніка ў Беларусі. Гэта і ёсць наша галоўнае дасягненне. На нядаўнім турніры памяці **Віктара Янушэўскага**, хаця і не трапілі ў фінал, але ўсе спецыялісты адзначалі, што менавіта "Металург" паказвае найбольш змястоўную і ўпэўненую гульню. У нашым складзе лепшы варатар чэмпіяната **Кіркіж** і лепшы бамбардзір **Янель**. На маю думку, лепшым абаронцам быў **Мацюк**, які ўмее ў міні-футболе практычна ўсё.

**– Як удалося стварыць баяздольную каманду з зусім розных груп футбалістаў?**

– Галоўным было аб'ядначаць калектыў па-за пляцоўкай аднымі задачамі, ідэямі, агульным духам. І толькі потым была чыста трэнерская справа канкрэтна паставіць гульню.

**– Што вы маглі б сказаць пра вядучых гульцоў каманды?**

– Найвялікшую нагрузку вынеслі галкіпер Кіркіж плюс асноўная чацвёрка (Янель, Мацюк, **Сіткевіч, Максімаў**). Напрыканцы сезона гэта была самая граматная чацвёрка, якая добра ўмее і абараняцца, і контратакаваць, і пазіцыйна наступаць.

Кіркіж – дасведчаны (майстар спорту міжнароднага класа па футзале), граматны варатар. Самаахвярны і тэхнічны. Для яго габарытаў вельмі каардынаваны. Упэўнены, спакойны. Добра пачынае атаку. Сапраўдны прафесіянал за межамі пляцоўкі.

Мацюк некалькі сезонаў таму перайшоў з футзала ў міні-футбол. Па патэнцыяле, па характары лічу яго лепшым абаронцам у Беларусі. Магчыма, індывідуальна не супертэхнічны, але граматна дзейнічае ў адборы, добра выбірае пазіцыю. Прычым, шмат забіваў.

Пра Янеля я ўжо казаў, што з зорнага хлопчыка ён ператварыўся ў сапраўднага байца. Браў на сябе ініцыятыву, адпрацоўваў як у абароне, так і ў атацы. Менавіта ў гэтым сезоне навучыўся як след гуляць у абароне, што было маім галоўным патрабаваннем да яго. Бо сучасная спецыфіка міні-футбола такая, што кожны футбаліст павінен на пляцоўцы ўмець рабіць усё. Ну, а майстэрства абыграць на адным квадратным метры некалькі сапернікаў, стварыць і рэалізаваць галявы момант было ў яго і раней. А павышэнне байцоўскіх якасцяў гэтаму толькі дапамагае.

Сіткевіч цікавы сваёй своеасаблівасцю. Дасканалая тэхніка, абводка, удар. Добра валодае абодвума нагамі (дарэчы, у Янеля як след працуе толькі левая). Хітры, разумны і таксама дасведчаны (мсмк па футзале).

Максімава можна назваць маторам каманды. Ад яго залежыць рух чацвёркі. Працавіты. Умее, як кажуць, узарвацца. Заўсёды выконвае трэнерскую ўстаноўку.

Адзначыўшы эфектыўнасць гэтай пяцёркі, нельга прыніжаць магчымасці іншых гульцоў. Шмат можна гаварыць пра **Казяка**. У яго роля, умоўна кажучы, другога трэнера. Бывае, праз яго я даводжу да гульцоў нейкія ўстаноўкі, давяраю праводзіць размінку. Яго слухаюць, паважаюць прафесійны досвед. Яму цяжка было прызвычаіцца да новай гульні, нерваваўся, перажываў, але паступова ўсё наладзілася. Можа павесці за сабою каманду, узяць ініцыятыву, падказаць.

**– Як лічыце, які футбол, вялікі ці малы, яму больш падыходзіць?**

– Не мне меркаваць. Там ён сфарміраваўся як гулец, тут дасягнуў добрага ўзроўню. Вельмі спадзяюся на Віталя, і нават раблю стаўку на яго на будучы сезон.

**Макей** яшчэ не выпрацаваў свой патэнцыял. Гэта малады гулец з выдатнымі дадзенымі. Спадзяюся, яму і ў далейшым удасца без вялікіх праблем спалучаць і адказную работу, і футбол. Быў я задаволены **Гружэўскім**, якому перашкодзіла траўма. Маюць добры патэнцыял **Шаўчэнка і Раманаў**. Дапамаглі і іншыя гульцы, у першую чаргу, **С. Кабельскі**, які напачатку ўваходзіў у першую чацвёрку.

– Што скажаце пра супрацоўніцтва з **Канстанцінам Харламавым**?

– У нас з ім поўнае ўзаемапаразуменне. Хутка сышліся ў поглядах. Ён якасна выконвае гаспадарчыя, адміністрацыйныя функцыі. Галоўнае, што даўно працуе з маладзечанскімі камандамі і добра ведае становішча на месцы.

Працяг будзе.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Спартыўныя збудаванні*

# Трэнеры запрашаюць у басейн

***МАЛАДЗЕЧНА. Комплексная дзіцяча–юнацкая спартыўная школа (КДЮСШ) працуе са студзеня 1973 года. Першапачаткова ў ёй было два аддзяленні – плавання і спартыўнай гімнастыкі. Пазней з'явілася секцыя гарадошнага спорту. У КДЮСШ займаюцца 704 навучэнцы, з іх плаваннем – 458. Дырэктар КДЮСШ Віктар Мазнёў:***

– Плаваннем займаюцца вучні 3–11 класаў. Гэтае пачатковае навучанне звычайна платнае. Толькі самыя адораныя дзеці абыходзяцца без "паперак". Для дарослых існуюць аздараўленчыя групы (каля 20), але за іх наведванне трэба таксама плаціць.

Школа падрыхтавала больш за 30 майстроў спорту па плаванні. Сярод іх чэмпіёны краіны, пераможцы міжнародных спаборніцтваў, чэмпіёны Еўропы **Станіслаў Зарыцкі, Таццяна Мацыборка, Глеб Магільніцкі, Людміла Крывецкая, Юрый і Станіслаў Трацэўскія, Алена Рудкоўская, Святлана Бажко**.

Важкі ўклад у іх падрыхтоўку ўнеслі трэнеры па плаванні **Аляксандр Склокін** і Святлана Бажко, якія самі параўнальна нядаўна выступалі, **Арнольд Караў, Юлія Даўгіх, Уладзіслаў Антонаў**.

На сёння перспектыўнымі лічацца выхаванцы У. Антонава **Віталь Барташэвіч, Ілья і Алег Антонавы, Сяргей Канарэйкін**; у А. Карава вызначаюцца **Вольга Бярэзіна** і **Анастасія Лях**, якая пачынала займацца ў Антонава.

– Большасць бацькоў не аддае дзяцей у плаванне таму, што хвалюецца за іх небяспеку, – мяркуе трэнер Уладзіслаў Антонаў. – Хачу ўсіх супакоіць: у нашым басейне вас чакаюць дасведчаныя трэнеры, якія навучаць дзіця плаваць пад наглядам кваліфікаваных урачоў. Да сябе я запрашаю вучняў 3 класа для камплектавання будучай спартыўнай групы. Бясплатна.

– Акрамя гэтага, у нашым плавальным басейне чакаюць і дзяцей, і дарослых для заняткаў у аздараўленчых групах, – дадае Віктар Мазнёў.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*



*Арнольд Караў з будучымі майстрамі спорту.*
ФОТА МІХАІЛА АСАЕВІЧА.

*Другая ліга*

# Нічыя: радавацца ці сумаваць?

**27.05 Забудова – РШВСМ-Алімпія (Мінск) 2:2 (0:2)**

**Галы:** Антановіч (70), Балыкін (90); (15), (25-пен.).

**Склад:** Буглак, Чарнель, Студэнт (Гулевіч, 33), Смірноў (Балыкін, 46), Івашкевіч, Садчанка (Антановіч, 61), Макрыцкі, Нядзелька, Дараховіч, Казяк, М. Мятліцкі (Рыгаровіч, 35).

Шматлікі брак у перадачах, немагчымасць выйграць верхавую барацьбу, правалы чысцінцаў у сярэдзіне поля, **Казяк** на пазіцыі пярэдняга абаронцы – усё добра праявілася, калі мінчане забівалі першы гол. **Чарнель** не адгукнуўся на пас **М. Мятліцкага, Садчанка** даў магчымасць на сваім левым фланзе зрабіць нацэленую дыяганальную перадачу ў штрафную, дзе да мяча не дабраўся ніхто з абаронцаў, а непрыкрыты нападаючы лёгкім кіўком галавою даслаў мяч у далёкі кут.

Другі гол госці забілі з пенальці, і чысцінцы зноў могуць скардзіцца на прадузятасць арбітраў: надта маляўніча падаў нападаючы ў штрафной, а перад тым ён страціў кантроль над мячом. Калі **Васіль Бабко** з Баранавічаў спыніў гульню, падалося, што зафіксаваў сімуляцыю.

Госці валодалі перавагай да таго самага моманту, як прапусцілі ў свае вароты, пасля чаго чысцінцы разарвалі іх абарончыя парадкі, і вынікам штурму стаў гол, забіты на апошняй хвіліне матча. Перадвызначылі такое развіццё падзей замены ў складзе "Забудовы". **Гулевіч** і **Балыкін** узмацнілі абарону. Хаця і там працягваліся памылкі, але ўжо не фатальныя. **Рыгаровіч**, **Татун**, **Антановіч** і перасунуты ўперад Казяк пры падтрымцы **Дараховіча** паклалі мяч на зямлю і з дапамогай камбінацыйнай гульні пачалі ўваходзіць у штрафную саперніка.

Антановіч атрымаў пас ад Рыгаровіча, выйшаў сам-насам з галкіперам **Жаўновым** па сваім левым фланзе і спакойна паразіў вароты. З далейшых добрых магчымасцяў "Забудовы" адзначу контратаку, падчас якой Макрыцкі кінуў у прарыў Казяка, але ў нагах Віталя мяч забраў Жаўноў. Балыкін зрабіў перадачу ўлева на Антановіча, які тэхнічна адпасаваў Дараховічу. Прастрэл Сяргея ў шчыльнай барацьбе не далі замыкнуць Гулевічу, мяч адляцеў да сегмента штрафной, дзе Казяка, які ўрываўся на хуткасці, падалося, проста "завалілі". Свісток маўчаў.

Зраўнялі лік так. Антановіч са штрафнога прабіў метраў з дваццаці амаль у дзевятку, аднак галкіпер перавёў мяч на вуглавы. Падача Макрыцкага злева, ніхто не кранууся мяча, а ля вонкавай лініі ўжо на правым фланзе яго апрацаваў Дараховіч, знайшоў шчыліну ў густым натоўпе і закінуў у варатарскую, дзе ўсіх апярэдзіў, нізка схіліўшы галаву, Балыкін.

Магчыма, гаспадарам крыху пашанцавала. Напрыклад, таму, што мінчане датэрмінова паверылі ў сваю перамогу. Але ж нельга назваць шчаслівым калектыў, што апынуўся пад судзейскім прэсінгам. Яшчэ ў плюс чысцінцам варта паставіць адметную таварыскасць, асабліва на фоне гасцей, якія часцяком злаваліся адзін на аднаго.

**27.05 Арбіта (Мінск) – Смаргонь 0:0**

**Склад:** Пясецкі, Ал. Канапелька, Селіванаў, В. Курак, Юркевіч, Д. Курак (Апяцёнак, 66), Дукса (Максіменка, 70), Якубіцкі, Дзігілевіч, Шагойка, Відук.

**Выдаленне:** Якубіцкі (60 хвіліна).

Смаргонцам не спадабаліся поле і судзейства, хаця інспектар **Леанід Гарай** прэтэнзій не выказаў. **Якубіцкі** выдалілі пасля таго другой жоўтай карткі.

Увогуле, госці пераігралі свайго саперніка, аднак забіваць у іх складзе не было каму. Хаця **Шагойка** аднойчы трапіў у перакладзіну, а **Д. Курак** – у штангу.

Верас – Лакаматыў 1:0, Дарыда – Ст. Дарогі 3:0, Акадэм-Славія – Азерцы 2:0, РВАР – Дынама-2 1:2.

**Бамбардзіры:** Карасёў (Лакаматыў) – 4; Жораў (Азерцы), Сачышчын (РШВСМ-Алімпія) – па 3; **Селіванаў** і іншыя – па 2.

| | |
|---|---|
| 1. Акадэм-Славія | 10 |
| 2. Дарыда | 9 |
| 3. Дынама-2 | 9 |
| 4. Лакаматыў | 8 |
| 5. Азерцы | 8 |
| 6. Смаргонь (-1) | 7 |
| 7. Верас | 7 |
| 8. РШВСМ-Алімпія | 7 |
| 9. Старыя Дарогі (-1) | 6 |
| 10. Арбіта | 5 |
| 11. Забудова | 1 |
| 12. РВАР (-2) | 0 |

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

